Год IV. Сакавік. № 3 (38)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 3.



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| B, b — Б, б. | K, k — К, к. | Š, š — Ш, ш |
| C, c — Ц, ц. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — Т, т. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| Č, č — Ч, ч. | M, m — М, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| D, d, — Д, д. | N, n — Н, н. | V, v — В, в. |
| E, e — Э, э. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы |
| F, f — Ф, ф. | O, o — О, о. | Z, z — З, з. |
| G, g — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| H, h — Г, г. | R, r - Р, р. | Ź ź — ЗЬ, зь. |
| I, i — I, i. | S, s — С, с | |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Сакавік 1932 г. | № 3 (38) |
|---|---|---|

## Адраджэньне — Незалежнасьць.

*(1918 — 1932).*

Штодзеннае жыцьцё як кожнай асобнай адзінкі, так і цэлых народаў гэтак складаецца, што смутак чарадуецца з радасьцю, упадак — з перамогай, заняпад — з адраджэньнем. Гэткае чаргаваньне ценяў і сьвятла можна дагледзіць ня толькі ў жыцьці людзкім, але і ў цэлай прыродзе: усё родзіцца, расьце, разьвіваецца, пасьля клоніцца да ўпадку, *умірае, каб перарадзіцца і пачаць жыцьцёвы круг нанова.*

Гісторыя Беларускага народу ад даўна і да нашых дзён знае мамэнты як высокага творчага ўздыму, так і глыбокага заняпаду. Час уздыму прыпадае на пару нашага дзяржаўна - незалежнага існаваньня. Пасьля прышло зьмяркаcьне і павольны заняпад — сон, але ня сьмерць.

Бо вось, калі залунала вясна народаў, прабудзіўся да жыцьця і Народ беларускі. Прабудзіўся на тое, каб праз выбраных сваіх прадстаўнікоў заявіць цэламу сьвету, што Беларусы ўжо больш ня сьпяць ды што хочаць на далей жыць жыцьцём вольным і незалежным, бо маюць — як і кожны сапраўдны народ—сваю тэрыторыю (абшар зямлі), сваю культуру, сваю мову, сваю нацыянальную асаблівасьць (характар) і сваю слаўную дзяржаўна-незалежніцкую традыцыю.

Гэткая заява была зроблена ў Менску 25 сакавіка 1918 г. і сёлета 25 сакавіка (марца) прыпадаюць 14-тыя ўгодкі гэтага Вялікага дня.

Чаму гэты дзень называем Вялікім, калі ён ня даў Беларусам сапраўднай незалежнасьці?

Іменна дзеля таго ён і Вялікі, што хоць і ня прынёс нам незалежнасьці сапраўднай, то-ж паказаў на будучыню, кудою наш шлях да адраджэньня і сапраўднага жыцьця.

А сьвет цэлы даведаўся, чаго хочаць Беларусы, калі яны гавораць бяз прымусу, бяз націску з чыей-бы ня было, але толькі не беларускай стараны, калі Беларусы выбіраюць і гавораць вольна, свабодна.

Людзкая мудрасьць кажа, што вялікі той народ, які ўмее шанаваць сваю мінуўшчыну. Мы, разважаючы Менскі акт Незалежнасьці з 25.III.18 г. ўважаем за абавязак да гэтага дабавіць, што яшчэ большы той народ, каторы ў бядзе і паняверцы патрапіць з годнасьцю думаць аб будучыні і яе будаваць.

Патрэбна на гэта сіла, а перадусім патрэбна вера і самаахвярнасьць, надбытку каторай у нас доўга йшчэ быць ня можа.

Дык помнімо-ж аб гэтым, дарагая беларуская моладзь, заўсёды, а асабліва ў дзень Вялікіх угодкаў 25.III.18 г. нашага Нацыянальнага сьвята. Працы і вялікай ахвярнасьц патрабуе ад нас наша бацькаўшчына, —**„каб перарадзіцца і пачаць жыцьцёвы круг нанова"**.

Гэта закон прыроды, а ня людзкая выдумка. А прырода заўсёды перамагае. Пераможам з ей і мы, калі будзем верны акту з 25.III.18 г. ў Менску.

---

# Крыху з нашай гісторыі.

## Прычыны уніі Беларуска-Літоўскай дзяржавы з Польшчай.

Дагэтуль мы разглядалі ўзрост і магутнасьць Вялікага Князьства Літоўска-Беларускага, а цяпер пяройдзем да яго далейшага жыцьця, якое прывяло да злучэньня (уніі) з Польшчай, а потым да заняпаду.

Гаворачы аб уніі Літвы і Беларусі з Польшчай, мы павінны перадусім паставіць пытаньне: чаму В. Кн. Літоўска-Беларускае пры ўсей сваей абшырнасьці і, здавалася-б, магутнасьці злучылася з Польшчай, адказваючыся ад свайго самастойнага існаваньня?

Прычын уніі з Польшчай было шмат, але мы тут вылічаць усіх ня будзем, пакажам толькі на галаўнейшыя. А гэтыя прычыны былі нутранога і вонкавага характару.

Галоўнай прычынай нутранога характару быў крызыс вялікадзяржаўніцкай улады, а вонкавага — напады нямецкіх крыжакоў.

У працягу аднаго стагодзьдзя (ад Міндаўга) вялікакнязеўская ўлада няраз перажывала вострыя крызысы, якія

гразілі маладой і абшырнай, яшчэ не сцэмантаванай дзяржаве, распадам. Аднак Літоўска-Беларуская дзяржава сама і сваімі сіламі перамагла гэтыя крызысы.

Вялікакнязейская ўлада перажывала глыбокі крызыс ужо зараз пасьля забойства Міндаўга (1263), а так-жа па сьмерці Гедыміна (1340). Гедымін пасадзіў на вялікакнязеўскім пасадзе ў Вільні аднаго з сваіх сярэдніх сыноў — Яўнута. Але Яўнут ані сваім розумам, ані сілай характару не адказваў такому высокаму становішчу, на якое яго вынесла воля бацькі, так што Яўнута скора перасталі слухаць усе іншыя ягоныя браты і Літ.-Беларускай дзяржаве грозіла поўная анархія, тым болей небясьпечная, што з захаду наступалі крыжацкія ордэны. Канешнасьць абароны ад крыжакоў змусіла некаторых братоў — а асабліва здольных і энэргічных Альгерда і Кейстута — да змовы проціў свайго брата. Альгерд і Кейстут наперад ужо ўлажылі свае далейшыя адносіны: паводле ўгавору паміж братамі вялікім князем меў быць Альгерд, а Кейстут ня толькі забавязаўся слухаць у-ва ўсім свайго брата, але так-жа прывесьці да паслухмянасьці іншых братоў. Альгерд ізноў забавязаўся ўсе здабытыя землі дзяліць з Кейстутам папалам і жыць з ім да сьмерці ў згодзе і вялікай любові.

Саюз двух братоў быў рашаючым фактам у далейшым жыцьці В. Князьства ня толькі з прычыны вялікага палітычнага розуму кожнага з братоў, але так-жа дзякуючы магутнасьці кожнага брата. Трэба ведаць, што Альгерд па жонцы атрымаў князьства Віцебскае, ад бацькі атрымаў Крэўскае, а пасьля адабраньня ад Яўнута Вільні, заўладаў і Віленскім князьствам. А Кейстут меў усю заходнюю часьць гаспадарства: Жмудзь, Троцкую зямлю, Горадзенскую і Падлясьсе. Такім парадкам саюз Альгерда і Кейстута прадстаўляў такую сілу, што ёй былі прымушаны пакарыцца ўсе іншыя браты і князі і гэты другі крызыс вялікакнязеўскай улады прайшоў — Альгерд да самай сьмерці (1377) займаў, дзякуючы свайму вернаму саюзьніку Кейстуту, уладнае значэньне ў дзяржаве і ніводзін з князёў не асьмеліўся выступіць проціў яго.

Па сьмерці Альгерда на вялікакнязеўскі пасад, пры падтрыманьні таго-ж самага Кейстута, узышоў любімы сын ягоны — Ягайла. Паводле ўмовы, зробленай паміж Альгердам і Кейстутам, на іх пасадах, пасьля іх сьмерці, мелі засесьці іх любімыя сыны: на месца Альгерда Ягайла, а на месца Кейстута — Вітаўт. Першым з змовіўшыхся князёў памёр Альгерд, то вялікім князем стаў сын ягоны Ягайла. Кейстут меў большую павагу і сілу ў гаспадарстве, аднак, верны ўмове з братам, ня толькі не перашкаджаў Ягайле заняць вялікакнязеўскі пасад, але нават, каб даць другім князём добры прыклад і паддяржаць прэстіж вялікага князя

і гэтым самым удзяржаць еднасьць і магутнасьць В. Князьства, Кейстут аднасіўся да Ягайлы з вялікай пашанай, як да в. князя, прыяжджаў да яго на раду, „ко старымъ думамъ“, як кажа летапісец, таксама як гэта даўней рабіў пры Альгердзе.

Аднак скора адносіны паміж дзядзькам і пляменьнікам папсуліся — паміж імі паўстала барацьба, якая прывяла да новага (трэцяга), найболей глыбокага крызысу на вялікакнязеўскім пасадзе — і гэты крызыс быў аднэй з прычын злучэньня Літвы і Беларусі з Польшчай, злучэньня, дакананага Ягайлам.

Крызыс пачаўся з таго, што Кейстут, ня могучы перанесьці хітрасьці і няшчырасьці Ягайлы, які проціў свайго дзядзькі змаўляўся нават з крыжакамі, заўзятымі ворагамі Літвы, выгнаў яго з Вільні і сам заняў вялікакнязеўскі пасад. Але аказалася, што і Ягайла меў сваіх прыхільнікаў: яго падтрымалі некаторыя князі; тады паўстаў проціў Кейстута і Ягайла, які пясьля выгнаньня з Вільні княжыў на Крэве і Віцебску. Рэзультат барацьбы быў для Кейстута трагічны: Ягайла запрасіў Кейстута ў свой абоз нібы для перагавораў, там загадаў схапіць Кейстута, закаваць у ланцугі і замкнуць у Крэўскім замку, дзе стары Кейстут быў задушаны, як кажуць, па загаду свайго пляменьніка.

Такім парадкам Ягайла ўзяў верх над Кейстутам, але ня змог пакарыць сабе іншых князёў: яго не прызнаваў ягоны брат Андрэй Полацкі, Дзьмітры Бранскі і сын Кейстута — Вітаўт, які ўцёк да Крыжакоў, ад каторых атрымаў падмогу. Каб удзяржацца на вялікакнязеўскім пасадзе, Ягайла пашоў у сьляды свайго бацькі і заключыў саюз з сваім братам Скіргайлам, якому аддаў Троцкае княэьства. Палажэньне ў В. княэьстве было цяпер падобным да палажэньня, якое было пры Альгердзе і Вітаўце. Усе міжнародныя трактаты, якія заключала В. Княэьства, падпісываліся ад імя Ягайла і Скіргайла. Так было да 1382 году. Першы крызыс на вялікакнязеўскім пасадзе, здавалася, прайшоў — Ягайла перамог і ўсядзеў на вялікакнязеўскім пасадзе.

Але скора наступіў новы, яшчэ большы крызыс, які прымусіў Ягайлу шукаць помачы ўжо за межамі свае дзяржавы, так як гэта зрабіў Вітаўт.

У хуткім часе аказалася, што саюзу Ягайлы з Скіргайлам было мала, каб удзяржаць у послуху ўсіх князёў; да таго яшчэ ўнутраныя спрэчкі і змаганьні, якія адбываліся ў Літ.-Беларускім гаспадарстве, умешваліся крыжакі-немцы. Яны паддзержывалі ўсякія закалоты паміж літоўска-беларускімі князямі, каб гэтакім чынам аслабіць усё гаспадарства. Раз яны памагалі Ягайле сьпінуць з віленскага пасаду Кейстута, другі раз яны памагалі Вітаўту сьпідаць Ягайлу. І праўда, Вітаўт, пры помачы немцаў, здабыў для сябе Горадню і Берасьце, а потым задумаў адняць ад Скіргайлы

і Трокі. Ягайлу і Скіргайлу ужо не па сіле было змагацца з нутранымі і вонкавымі ворагамі — у такіх абставінах Ягайлу прышла думка ажаніцца з польскай каралеўнай Ядвігай. Ажаніўшыся з Ядвігай, ён думаў забясьпечыцца і перад крыжакамі і перад сваімі непакорнымі братамі.

Гэтакія былі нутраныя і вонкавыя прычыны, якія заставілі Ягайлу пайсьці на унію з Польшчай і прыняць бадай усе варункі, якія падыктавалі яму польскія палітыкі у Крэве. А гэтыя варункі былі немалыя.

У Крэве 14 жніўня 1385 году польскім паслом Ягайла даў такія забавязаньні: прыняць каталіцкую веру з усім сваім народам ад старога да малога, з усімі братамі і сваякамі, з усімі баярамі і магнатамі; аддаць сваю казну на патрэбы Польшчы; заплаціць б. нарачонаму Ядвігі архікнязю Вільгэльму 200 тысяч флярэнаў „няўстойкі"; выпусьціць палонных палякоў на волю; назаўсёды далучыць Бел.-Літоўскае гаспадарства да Польшчы. За гэта ўсё Польшч абяцала памагчы Літве і Беларусі ў іх змаганьні з крыжакамі.

Гэтак выглядала першая крэўская унія В. Кн. Літ.-Беларускага з Польшчай. Перад тым, як рашыцца на такі крок, Ягайла радзіўся з сваей маткай, в. княгіняй Ульлянай, з некаторымі братамі князямі, як: Скіргайлам, Карыбутам, Лінгвеніям і інш. Відаць, тыя радзілі яму прыняць польскую карону, да якое пхала Ягайлу яго амбітная натура.

Беручы пад увагу ўсе гэтыя варункі, трэба сказаць, што варункі прынятыя у Крэве і заключаная там унія ня была ані дынастычнаю, ані пэрсональнаю; гэта было проста ўлучэньне В. Кн. Літ.-Беларускага ў Польшчу, якое называлася з лацінска „**інкорпорацыя**", або, як называлі палякі — „wcielenie".

Ягайла, прыймаючы польскую карону, далучаў усе літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі да Польшчы „на вечныя часы". Літ.-Беларускае гаспадарства і Польшч мелі станавіць адно палітычнае цела. Дзеля гэтага зараз пасьля шлюбу Ягайлы з Ядвігай і каранацыі ў Кракаве ад усіх удзельных князёў бралі прысягу на вернасьць каралю, каралеве і кароне польскай. Князі цяпер былі ўжо як-бы вассаламі Польшчы. Літоўскія баяры, якія прынялі каталіцтва, былі зраўнаны ў правох з шляхтай польскай, праваслаўныя-ж баяры гэтых правоў былі пазбаўлены і гэтак апынуліся ў ліку грамадзян другой катэгорыі.

З гэтага відаць, што унія з 1385—1386 году была болей радыкальнай і болей зьлівала ў адно „цела" дзьве дзяржавы, чым унія 1569 г. ў Любліне, якая усёжтакі не касавала зусім аддзельнасьці В. Кн. Літ.-Беларускага. Далейшыя падзеі паказалі, што Ягайла ня мог споўніць усіх сваіх забавязаньняў, як ня мог злучыць у адно цэлае дзьвюх дзяржаў.

**Ваг.**

# Ab kulturnych formach žyćcia. (3)

*Pryvitalny ükłon* jość pieršaj čynnaściaj, kali spatykajucca dvuch ci bolš ludziej. Forma pryvitańnia zaleža pieradusim ad miejsca (vulica, publičnaje pamiaščeńnie, pryvatnaje pamieškańnie i h. d.) i ad asoby, jakuju vitajem. Zaŭsiady adnak astaniecca praviłam, kab usie ruchi i pačynańni byli volnymi, niaprymušanymi, naturalnymi.

Znaŭcy kažuć, što niama dvuch čałaviek, jakija-b kłanialisia adnolkava. Dadać da hetaha treba, što takoha napadablivańnia navat nia moža być; napadoblivać možna — i treba— dobryja duchovyja ŭłasnaści čałavieka, ale fizyčnyja — nie. Tut zaŭsiady prajavicca music aryhinalnaść svaistaja tolki danamu čałavieku i nikomu inšamu. Zrazumiełaja reč, što i heta aryhinalnaść nia śmieje być niejkaj vyzyvajučaj, ale zaŭsiady — dobra vyrablenaj, karnaj.

Voś-ža pry spatkańni — hdzie-b jano nia było — treba pieradusim hladzieć spatykanamu prosta ŭ vočy, a nie hladzieć u ziamlu, ŭbok, ci ŭvierch. Vočy — kažuć—źjaŭlajucca lustram dušy; dziela hetaha vyražeńnie vačej musić być u najhoršym razie surjozna-pavažnym. Uśmieška moža mieć miejsca tolki ŭ adnosinach da asoby dobra znajomaj. Kožny čałaviek pry pryvitańni musić vyniać ruki z kišania, a kurcy — papiarosu z zuboŭ. Treba zaznačyć, što kišani naahuł nie patoje isnujuć, kab u ich trymać ruki. I dobra sapraŭdy robiać vajskovyja, kali navabrancam, kab advučyć ich ad brydkaha trymańnia ruk u kišanioch, zahadvajuć kišani zašyvać.

Na vulicy nia pryniata vitać słovam, chiba ŭznoŭ vitajem asobu dobra znanuju, najmienš adnolkava socyjalna pastaŭlenuju dy i to — z biespasiarednaj tolki bliskaści. Ni ŭ jakim vypadku nielha za niekim kryčeć cieraz vulicu (u horadzie).— Na vulicy—i naahuł na dvory—na heta pryvitańnie składajecca źniaćcie šapki (kapialuša) i bolšy ci mienšy ŭkłon hałavoj. Šapku pry hetym treba zdymać tak, kab jana nie zasłaniała tvaru, a značyć, u bok prociŭlehły ad asoby, katoraj kłaniajemsia. — Asoby nieuniformavanyja (uniformu nosić vojska, palicyja, čyhunščyki) nie pavinny ŭžyvać hetak zvanaha salutavańnia.

Kali jdziemo ŭ tavarystvie i spatykany čałaviek kłaniajecca adnamu tolki z-pasiarod nas, bo adnaho tolki znaje, — adkazyvać na ŭkłon musiać u s i e.

Bolš uvažnym treba być, kali ŭ tavaryskich ŭzajemaadnosinach prychodzić pad uvahu asoba žanočaje płoci, bo žančyna naahuł karystajecca z pašyranych pravoŭ u tavarystvie.

Kali spatykajem znajomaha mužčynu ŭ tavarystvie nieznajomaj nam žančyny, treba ŭkłon damiarkavać tak, kab jon moh być adpaviednym (bolš strymanym, pavažnym) i dla nie-

znajomaj žančyny. Žančyna ŭ takim razie pavinna na naš ukłon adkazać, choć-by nas i nia znała.

Ahulna pryniata, što mužčyna vitaje žančynu pieršym, navat kali jon staršy viekam i stanoviščam. Heta adnak nia znača, kab padlotak č a k a ŭ, pokul joj budzie kłaniacca asoba staršaja. Naahuł-ža treba staracca, kab małodšy zaŭsiady pieršy vitaŭ starejšaha — viekam i stanoviščam.

Tavaryski takt vymahaje, kab haspadar jakoha-kolviečy pradpryjemstva, jak fabryka, handal, kancelaryja i h. d. uvažaŭ svaich paduładnych paza służbaj za roŭnych sabie, a asoby žanočaje płoci pavažaŭ za roŭnych usim inšym, ad jaho niezaležnym žančynam.

Bolšaj zdatnaści vymahaje pryvitalny ŭkłon u zamknionym pamieškańni, a značyć kali mužčyna „biestavałosy“ (biez šapki ci biez kapialuša). U hetym razie mužčyna ŭstaje (kali prad tym siadzieŭ), nasampierš v y p r a s t o ŭ v u j e c c a i robić hłybšy ci miałčejšy ŭkłon c e ł y m k o r p u s a m (hałava — šyja — tułaŭ), adnak nia zhibajučy noh. Padčas chodu z nieprykrytaj hałovoj pryvitalnyja ŭkłony byvajuć mienš hłybokimi.

Ukłony žančyny (darosłaj) byvajuć drabniejšymi: skłaniajecca tolki hałava i šyja, ale nia schilajecca korpus, jak heta vymahajecca ad mužčyny. Ukłon padrastajučaha dziaŭčaci rożnicca zvyčajna ad ukłonu žančyny darosłaj: dziaŭčo užyvaje dla ŭkłonu hetak zvanaha „reveransu“, h. zn. lohkaha zhibu adnej nahi ŭ kalenie, z adnačasnym vodstupam na poŭkroku ŭtył.

Častyja nieparazumieńni vynikajuć z taho, jak časta možna i treba vitacca ŭkłonami, kali spatykajemsia niekalki razoŭ u dzień. Niama na heta inšaj rady, jak zasada, što adzin dadzieny i pryniaty (zaŭvažany) ŭkłon vystarčaje na p o ŭ d n i a; naturalna, kali ŭ poŭdzień nastupaje choć-by karotkaja razłuka (paŭza). A znača nia treba ŭściaž vitać asobu, jakuju niekalki raz spatykajem za čas adnaho poŭdnia: chopić pryvitańnia adnaho. Spatkaŭšysia adnak pa abiedzie, treba pryvitacca ŭkłonam uznoŭ.

Trudnaści pradstaŭlaje dla niekatorych naša s ł o ŭ n i c t v a pry spatykalnych ukłonach. Voś-ža, na dalokuju adlehłaść, a asob staršych, pavažniejšych — i na bliskuju, vitajem, jak užo havaryłasia, „niema“, biaz nijakich słoŭ. Pry spatkańni z-bliska asob dobra znajomych, nia vyšejšych ad nas stanoviščam i viekam, vitajem, aprača ŭkłonu i s ł o v a m. — Da abiedu havorycca *„Dobry dzień!“* (a nia „dzień dobry“), a pa abiedzie — *„dobry viečar!“* (a nia „viečar dobry“). Usiakija ślepa zapazyčanyja „całuju ručku“, „pakorny słuha“, „pašana“, abo „zdrastvuj!“ i inš. nia majuć nijakaha ŭ nas sensu i biez patreby psujuć i kalečać našu movu. Hetaha treba vyścierahacca.

*Pry ŭvachodzie ŭ teatr, restaran i im p.* zachoŭvujemsia rozna: za praviła možna pryniać, što znajomych adpaviedna vitajem, a nieznajomych tolki tady, kali majemsia prabyć z imi daŭžej u vuziejšaj adlehłaści. Dzieła hetaha pry ŭvachodzie ŭ teatr, u restaŭracyju, u aŭtabus ci tramvaj, nieznajomych asob nia vitajem; ale vitajem słovam napr. razam jedučych padarožnych u adnym kupe (addziele) čyhunačnaha vahonu. Uvachodziačy ŭ pryvatnaje pamieškańnie, u kramu, ci ŭ kancelaryju pieršaj spravaj jość słoŭnaje, vyraznaje (ale nia kryklivaje!) pryvitańnie asob tam prysutnych i tady tolki možna źviartacca da ich u spravie, u jakoj my da ich pryšli. Lišnim chiba było-b dadavać, što „chata kryta“ i mužčyna musić pry hetym šapku źniać.—Pry ŭvachodzie ŭ začynienaje pamieškańnie, treba pierš vyrazna paru razoŭ zastukać u dźviery ščykałatkami pravaj (levaj) ruki i nie ŭvachodzić raniej, čymsia z siaredziny nie pačujecca *„kali łaska!“* (a nia „proša“). Kali nikoha z siaredziny nia čuvać, treba stukańnie paŭtaryć druhi i treci raz, a kali i tady jašče adkazu nia čuvać,— paprabavać pračynić krychu dźviery i zapytacca *„ci možna?“*

**Ni ŭ jakim vypadku nielha ŭvachodzić u čužuju chatu z nieabciortymi ad hrazi i śniehu botami**, a tym bolš — z takoj-ža **adziežaj**.

Nielha nie adciemić hłybokaj relihijnaści hałoŭna našaha sialanstva i ŭ katal:ckich vakolicach, uvachodziačy ŭ chatu, dzie jość śviatyja abrazy, treba nasampierš pachvalić Boha hetak zvanaj pachvalonkaj: *„Pachvalony Jezus Chrystus!“*, adkazvajecca: *„Na vieki!“* — U pravasłaŭnych — miajscami — i ŭ unijackich chatach zaŭsiody ŭžyvajecca pachvalonka inšaja: *„Słava Isusu!“*, adkazvajecca: *„Słava na vieki!“*

Kali prychodzicca pytać spatkanaha čałavieka ab niejkuju radu, napr. pytacca darohi, dyk pieršaj spravaj jość taksama pryvitać hetaha čałavieka vietlivym słovam i tady tolki pytacca jaho ab radu. Vyhladała-b heta pryblizna hetak: *„Dobry dzień, panočku!“* (paniečka, dziadźka, ciotka i h. d.) *Skažecie, kali łaska, kudoj daroha ŭ N N?...“* I nielha nikoli pastupać hetak prosta: *„kudoj daroha ŭ N N?...“* Za kožnuju ŭsłužnaść treba vietliva padziakavać, napr. *„Dziakuju vielmi!“*, *ščyra dziakuju!“ i h. p.* i nikoli nielha adyści cichačom. Navat, kali-b my prošanaj dapamohi, ci rady nie atrymali, nielha adyjšci cicha, a treba pieraprasić, što my hetaha čałavieka paturbavali: *„vybaččie, kali łaska!“* — Na złožanuju padziaku „dziakuju vielmi“, „ščyra dziakuju“, ci pieraprosiny „vybaččie, kali łaska!,“ toj, da katoraha heta padziaka ci pieraprosiny śkiravany, musić adkazać: *„kali łaska“*.

Jak pry zvaračvańni da jakoj-kolviečy asoby z jakoj-niebudź prośbaj, tak i pry padziacy za vykanańnie hetaj prośby, kali heta dziejecca na dvory, mužčyna musić zrabić ukłon, zdymajučy šapku.

Kali-b zdaryłasia niejdzie patreba pracisnucca praz husta zastaŭlenuju taŭpu ludziej, ci niekaha styłu abminuć, kažacca: *„vybačajcie!"*, na što asoba dajučaja darohu adkazvaje *„kali łaska!"*

Vychodziačy z čužoha pamieškańnia ci naahuł raźvitvajučysia z niekim, kažacca: *„Astavajciesia zdarovyja," „da pabačańnia", „byvajcie," „usiaho dobraha;"* adkazvajecca: *„z Boham," „da pabačańnia", „byvajcie", „usiaho najlepšaha."*

*V. S.*

---

# Літэратурны аддзел.

* * *

Волю Тваю выпаўняючы,
Сьцежкай цярністай іду,
Усё ў гэтым сьвеце кахаючы
Сам — некаханым жыву.

У дары складаю — ахвярныя
Мукі і сілы Табе,
Прышлыя дні сьветазарныя
Сьвецяць заплатаю мне.

Моладасьць наша бурлівая!
Ты ў нас — адна барацьба,
Глянь-жа! ці-ж мы нешчасьлівыя
Радасьць — у бурах жыцьця.

**М. Машара.**

ВОЧКІ.

Вочкі прыемныя, міла бліскучыя,
Радасьці й шчасьця крыніца...
Вочкі прыветныя, к сабе завучыя,
Вас немагчыма забыцца...
Вы пазіраеце зрокам праменным
Мне ажыўляючы думы,
Асвабаджаеце сэрца закована
У путы жалю і суму.
З радасьцяй ціхаю, з дзіўным захапленьнем,
Я ваш пагляд спатыкаю
І як-бы у хвалях шчасьлівасьці ўтоплены
Я аб усім забываю.
Толькі вось сэрца маё неспакойнае
Чагось трывожна так б'ецца,
Штось прачувае яно невымоўнае
Адтуль, куды так імкнецца.

**Ю. Сяргіевіч.**

## DA DRUKARA.

Darażeńki Brat—Drukar:
Ty laciš, jak na pażar;
Musić času mała maješ?
Dyk šmat litar prapuščaješ?...
Navat časam cełу słovy
Pierakruciš, robiš novy.
Jak nalepiš dziuraŭ—łataŭ,
Kažaš: „Chochlik vinavaty!“
Kali tak, jak baču heta,
Drukar stanie za paeta!
A tahdy što budzie z nami?
Budziem ŭ Vas pamacnikami?!..
Papsujecca taja mierka,
Što „dla nosa tabakierka.“

Dyk voś, brat, takija spravy:
Zakašy vyšej rukavy;
Nie kaštuj piakielnaj hary;
Ŭčapi k nosu akulary:
Składaj z litar słovy poŭny;
Z słoŭ radočak składaj roŭny;
A z radkoŭ bałonka budzie —
Pračytajuć dobry ludzi,
I paznajuć, jak im byci:
Volu—dolu jak zdabyci.

Ŭsiej karyści my nia źličym:
Drukar stanie budaŭničym;
Dumki ŭsie na stoł razłožyć,
Ich na tysiačy razmnožyć
I addaść narodu ŭ ruki.

Voś mudrec, što dla navuki
Abłysieŭ, zmadzieŭ i ździorsia,
U pakojčyku zapiorsia:
Dumaŭ, dumaŭ až da potu;
Choć da pracy mieŭ achvotu,
Biaz d r u k a r n i byŭ-by niemy.
I paet svaje paemy
Piša, piša kolki dosyć
I... ŭ d r u k a r n i u ich prynosić.
Drukar zmorščycca piakielna,
„Pišaš, kaža, niačytelna!
Što-ž jašče? ŭsio vieršy, vieršy?!
Dreń usio! Drukujem pieršy
Kataloh; paśla — „Ab hnoju,“
Pośle „Žarty z udavoju,“
Pośle inša, toje, heta“...
Ŭ kut zakinuli paeta!

A ŭ tych vieršach duša rviecca
I harača serca bjecca:
Sonca, ščaście, praŭdu, dolu,
Luboŭ daść paet, i volu
Zaručaje, tak jak moža.
Ŭsio apiša tak pryhoža,
Što prajmie da śloz, da śmiechu:
Niasie radaść i paciechu...

A drukar?... jak nie paznaje,
Na bok vieršy adkładaje.

Ej, drukar! Ty—pan mahutny;
Hołas tvoj daloka čutny;
Tvaje ruki, sam ty čorny,
A mašynu, tak jak žorny
Kruciš—mieliš. Dy zatoje
Tvajo serca załatoje.
Pažalej mianie, paeta!
Maja prośba budzie heta:
Maje vieršy, choć i drenny,
Choć-by gust tvoj byŭ admienny
Drukuj tak, jak napisany
I... kab sens byŭ zachavany.
Tahdy budziem my z taboju,
Jak-by rybka žyć z vadoju.

**V. A.**

## DOLA.

Cichaju nočkaju — vasieńniaju
Kryki ŭ niebie čuvać žuraŭlinyja...
Zory ŭ niebie razsypaŭ Boh žmieniaju
Cichaju nočkaju — nočkaj vasieńniaju.

Žoravy hinuć ŭ staroncy paŭdzionnaje.
Z poŭnačy vichry nadchodziać z miacielicaj
Ranica śmiecham dychnuła ściudzionaja,
Zimka pakul zaŭładać nie aśmielicca,

Dola —Žabračka la chaty viaskovaje
Dzień cełу ciahniecca vulicaj hrazkaju,
Brodzie nad ranicaj nočy viakovaje,
Dola— Žabračka la chaty viaskovaje...

**V. B.**

## РАЗВОДЗЬДЗЕ.

Разводзьдзе бывае
Сьняжок як патае,
З натопу ад вод
Патрэскае лёд.

Рака разальецца
І грозна нясецца:
Змывае кусты,
Ламае масты,

Грэблі паразносіць,
Равы пазаносіць;
Залье ўсе лугі,
Палі, аблагі.

Ўсе нізкі прасторы
І вёскі і сёлы,
Што трэба сказаць
Пры рэчцы стаяць.

Руйнуе будынкі,
Затопіць скацінку,
Яшчэ, дзе гарэй —
Захопіць людзей.

Такое разводзьдзе
Было ў прошлым годзе
Ніжэй што стаіць
І датай глядзіць.

1932.

**А. Жук.**

## СЬМЕРЦЬ ІВАНКА. (2)

II.

То ня месяц раніцою з сонцам спатыкаўся,
Ня імглою луг зялёны сьвежаю заслаўся,
То ня бор гарыць, а сёлы, не пярун б'ець ў хаты,
— То сьпяваюць песьню сьмерці упыры—гарматы.
Кулі—ціўкаюць, як птушкі, бомбы—звоняць ў звоны
Людзі—быццам на малітве, аддаюць паклоны.
Чалавек адзін другога па кутох шукае,
Як шалёнага сабаку, брата забівае.
Хіба замест сэрца камень носяць іхны грудзі, —
Зьнячуліць так чалавечнасьць патрапілі людзі.
Мо' нямілы для народаў ясны сьвет зрабіўся,
Мо' зямлі ім мала стала, год не абрадзіўся?
Людзі, людзі! Сонца сьвеціць добрым і лядакім,
Родзіць вам зямля прыбыткам шчодрым і ўсялякім—
Ці-ж ня сорамна вам людзі між сабой глуміцца,
Аж жывёле прыкра стала на вайну дзівіцца!?
Адступілась, каб ня бачыць дзікога мучэньня,
Вашых зьдзекаў і стагнаньня, вашага глумленьня.
Ты схавайся сонца ясна ў дажджавыя хмары,
Не паказвай пекла небу, сьветавое кары
Так-жа месяц прыхавайся з зоркамі сваімі,
Над сялібамі, палямі не сьвяці пустымі.
Хай прaймуцца людзі сумам, сэрца— пакаяньнем,
Хай імёны ўсіх пабітых, як ня рука—уздыханьнем

Грудзі нашае зямліцы сьвету растлумачыць,
Хай-жа неба як забітых зоркамі пазначыць.
А вы, птушкі, засьпявайце, як ўжо ноч настанець,
Разам з ветрам ў час хаўтурны „Вечна, вечна памяць."

III.

Вее вецер, вее буйны, чорны хмары гоніць
То пакажа яснасьць сонца, то яго заслоніць,
То заплача, як дзяціна, то як воўк завые
Па тых сілах, што як ў прорве гінуць маладыя.
Нёман, Нёман! не насіў вады ты столькі ў мора,
Колькі сьлёзаў ад народу выціснула гора.
Шэпча Нёман сястры, Дзьвіне „праз людзей нязгоду"
Ды памрукваючы далей плаўна гоніць воду,
Зазлаваўшы шапкай пены кіне ён аб бераг
Ды пачне Дзьвіне зноў правіць казкі аб жаўнерах.

(д. б.) **Я. Вількоўскі.**

## Сакавіковая ноч.

*Нашаму П. С. прысьвячаю.*

Штось чароўнае пануе ў цяперашніх хоць і сакавіковых ночах... Месяц ужо страціў свой яркі, быццам электрычны бліск; вецер не заводзіць гамонкіх гутарак з лесам, не дзярэ нашае страхі, як гэта часта бывала ў сьнежні, студзені і ня гудзе так моцна ў коміне. А луна (месяц), гэта траўнёвая чараўніца, пасылае свае касулькі, якія энэргічна прабіраюцца скрось занавескі вісячыя над вокнамі; стараюцца заглянуць у вочы, то бегаюць па галаве дзяўчыны, раптам спадаючы на тонкія пальцы, якія перабіраюць струны гітары, асьвятляючы кожную жылку рукі, будзячы сілу і энэргію самае музыкі, наводзячы якуюсь загадку значэньня яе. Ня вытрываеш, каб ня ўстаў пацікаваць: што кіруе і робіць дасужымі гэтыя праменьчыкі і ня раз падумаеш, — ці ня гэта будуць тыя бязформныя болкі, тыя меншыя і большыя грудачкі, быццам лёсам кожнае ўфармаваныя, якія бегаюць на небасхіле, нібы хвалячыся сваімі адценкамі і формамі...

Доўга ня можаш адарвацца ад вакна, хоць і адчуваеш, што робіцца сьцюдзёна. А чараўніца луна, як прыгожая дзяўчына, распасьцірае свае сеткі, каб здабыць сабе чым больш сымпатыкаў. І сэрца маладое істоты ня можа ўстаяць перад чарамі. Яно шукае нейкага мастацтва, хараства ў гэтых прывабах і часта, нават разумеючы, што самая прыемнасьць і хараство, — гэта ля вакна, выскаквае на двор, шукаючы лучнасьці з прывабамі, але ўздрыгнуўшы ад холаду, з сумам варочаецца назад у хату. І нязначная колькасьць пытаецца вярнуцца йзноў да вакна, большасьць-жа, гатовых засьпяваць элегію, шукае супачынку пад цёплай коўдрай. **Янка Невук.** (Францыя.)

# Jak być zdarovym. (2)

*Vohkaść* u pamieškańni rujnuje nia tolki budyninu, spryjajučy raźvićciu hryba, ale škodzić i dla zdaroŭja. U takim vohkim pamieškańni pavietra nadta ciažkoje, bo ŭ im duža mnoha jość vadzianoj pary, jakaja škodzić ludziam na łohkija, pry hetym usialakaja mokradź i syraść spryjajuć, asabliva biaz dostupu sonca, raźvićciu chvarobnych, npr. suchotnych bakteryjaŭ. Pamieškańnie takoje treba šmat bolš ahravać, bo vohkaść zabiraje ciepłatu.

Dziela vyšejskazanych pryčyn, treba chaty budavać na suchich, vysokich miascoch, davać vysoki i dobry padmurak, nasyp treba rabić z piasku. Dalej, u kožnaj chacie pavinna być padłoha. Najhałaŭniejšaja adnak moža jość sprava, kab nie raźlivać u pamieškańni vady, nia možna ŭ chacie myć i sušyć chuścia (bializny), varyć jeści: na heta pavinna być kuchnia; nielha pakidać raźlituju vadu ŭ roznych pasudzinach, jak napr. u načoŭkach, viodrach i inš. Pry ŭsim hetym nakoplivajecca vadzianaja, škodnaja zdaroŭju, para. Dyk dbajma, kab u našych pamieškańniach było sucha i ciopła.

*Abstanoŭka* ŭ pamieškańni służyć pieradusim dla našaj vyhody, a nie dla prybrańnia śviatlicy. Pry hetym, u našych ciesnych pamieškańniach musimo mieć tolki patrebnyja rečy, jak łožki, stały, ławy, tapčany, kresły, šafy, kamody, para abrazoŭ i inš. U chacie nie pavinna lažać zbruja, miaški z zbožam, piły, tapary, drovy i inš. pradmiety. Usio heta možna pałažyć ci ŭ kleć, ci ŭ kamorku, ale tolki nia trymać u chacie.

Źviarnu tut uvahu čytača tolki na samyja važnyja rečy ŭ štodziennym žyćci. I tak, u pamieškańni pavinna być hetulki łožkaŭ, kolki jość uzrosłych asob. Dzieciej, z hora, možna pałažyć pa dvoje ŭ adzin łožak. Adnak spatykajecca i takaja biazhłuździca, što ŭ 4-och i 5-och čałaviek śpiać namituś u adnym łožku, a druhi łožak staić prybrany z paduškami až pad stol. Na što-ž jon staić? Jakuju jon nam daje koryść? Hetaha ŭ nas być nie pavinna.

Iznoŭ-ža łožak służyć tolki da spańnia. Nia možna na im sadzicca ŭ vierchniaj adziežy, katoraja zaŭsiody amal byvaje brudnaja. Nia možna na łožak nakidyvać roznaha łachmaćcia, ci čaho inšaha, jak cacak, misak, chleba, stajanak i inš. Z-pad łožka treba ŭsio vyciahać, vykinuć, a nastupna toje łožka vymiaści, zmyć.

*Načnaja pasudzina*. Dalej, u kožnym domie pavinna być adpaviednaja načnaja pasudzina, bo nia možna kožnamu vychadzić nočču na viecier i choład. Pasudzina heta pavinna być addzielnaja i jaje da ničoha bolš brać nia možna. — Voś adzin prykład z žyćcia: u adnej siamji para asob chvareła na brušny dur i mieli razvalnieńnie. A dziela taho, što ŭ chacie nia było načnoj pasudziny, dyk im dali zvyčajnaje viadro.

Paśla chvaroby viadro vymyli i čerpali im z studni vadu. Ad hetaha šmat asob u vioscy, jakija z tej studni brali vadu, taksama zachvareli na brušny dur, bo bakteryi na viadry ŭ chołodzie mohuć žyć nadta doŭha i pieradastavacca z vadoj u žyvy arhanizm.

*Umyvalnia.* Nieabchodnymi rečami ŭ chacie źjaŭlajucca jašče umyvalnia i splavačka. Pieršaja moža składacca choć-by z adnej vialikaj misy. Pry hetym pavinien być čysty ručnik i myła. Nikoli nia možna vyciracca jakimiś brudnymi šmatami ci adziežynaj jakoj. Chvoryja, asabliva na vočy, pavinny mieć asobny ručnik.

*Splavačka* z piaskom pavinna być u kožnaj chacie i na vidnym miejscy; pry hetym jaje časta treba pieračyščać. Kali-b chvory na suchoty napr. plunuŭ aby kudy, jahonyja ślinki vysychajuć, a žyvučyja ŭ ich zarazki padymajucca ŭ pavietra i zaražajuć druhich.

*Miaści chatu i prybirać* treba ŭmieć. Bo što z hetaha, što dziaŭčynioška, jakaja tudy-siudy razharnieć śmiaćcio z siaredziny chaty, a ŭ kutkoch, pad łožkami i ŭzapiečku—bałota, choć vozam vyvazi. Treba, pakropiŭšy, adčynić vakno, kab vychodziŭ pył, spakojna i adusiul čysta vymieści.

Dalej, pieraciorci stoł, zedliki, kresły, abrazy, vokny i pavynosić niepatrebnyja rečy, a patrebnyja, vymiaŭšy, pastavić na miesca. — Kali hetak budziem pieraścierahać čystatu, to peŭna nie zaviaducca ŭ nas, ani kłapy, ani prusaki, ani tarakany, ci jakija horšyja insekty, jakija nie dajuć nam spakoju pa načach i raznosiać zarazu.

*Student medycyny* **J. M.**

---

# Žyvaja pryroda.

## Haspadarskaja svojskaja žyvioła.

*Jaje prošłaść i sučasnaść.*

Naviazvajučy da papiaredniaj hutarki (hl. Nr 1—32) ab asvojvańni (domestykacyi) dzikoj žyvioły, varta zaznačyć, što žyvioła ličycca asvojenaj tolki tady, kali jana z voli čałavieka ŭžo pačnie r a z m n a ž a c c a. — Na miejscy budzie taksama prypomnić, što niekatoruju dzikuju žyviołu, napr. lisicu, dahetul susiom nie ŭdałosia asvoić.

Pierachodziačy da dalšaha pierahladu prošłaści i sušasnaści paasobnych, siańnia svojskich, žyviolin, zatrymajmasia nad prošłaściu i sučasnaściu skaciny, bydła.

*Skacina.*

Najstarejšyja astatki škialetu s v o j s k a j skaciny, znojdzienyja pry ziemlanych raskopkach, adnosiacca da h. zv. tar-

tovaha bydła. U hetym siańniašnija pradstaŭniki navuki peŭny i amal zhodny. Horš adnak staić sprava z adkazam na pytańnie, chto byŭ dzikim prodkam h. zv. tarfovaha i naahuł svojskaha bydła? Tut pohlady dzielacca. Nie ŭvachodziačy adnak u drobiazi, dumki i dahadki paasobnych vučonych daśledčykaŭ ab pachodžańni bydła možna było-b pradstavić bolš-mienš hetak:

Ahulna ŭziaŭšy, najbolšy ŭpłyŭ na paŭstańnie siańniašniaj skaciny mieŭ *tur* (Bos primigenius Boj.). Vialikaja čaść vučonych vidzić u im adzinaha prodka sučasnaj skaciny. Inšyja ŭznoŭ vučonyja kažuć, što tur jość prodkam tolki adnej čaści skaciny, a druhaja čaść pachodzić, kali nie całkom, dyk u značnaj miery ad inšaha dzikoha prodka, ad hetak zvanaha B o s b r a c h y c e r o s—t u r a k a r o t k a r o h a h a. Ci praŭda ŭ kancy kancoŭ akažacca pa adnej staranie, ci pa druhoj, peŭnym budzie zaŭsiody, što ŭ histroryi raźvićcia skaciny, tur (Bos primigenius) zajmaje pieršaradnaje značeńnie. Varta dziela hetaha paznać jaho bližej.

Jak tur (bos primigenius), tak i Bos brachyceros (karotkarohi) daŭno ŭžo nia žyvuć i navuka pradstaŭlaje ich nam siahońnia tolki na padstavie roznych starych apisańniaŭ, abrazoŭ dy ziemlanych raskopkaŭ. Hetyja apošnija pakazvajuć, što tur spatykaŭsia nia tolki ŭ Eŭropie, ale taksama ŭ paŭnočnaj Afrycy, dy ŭ uschodniaj i siaredniaj Azii. U roskopkach spatykajecca tur užo ŭ płastoch ziamli z epochi dyluvijalnaj, najnaviejšaj; z časam adnak tur stanovicca što-raz radziejšym i apošniaja štuka jaho była zabita ŭ Jaktoraŭskaj pušččy ŭ Mazovii (Polšč), u 1627 hodzie.

Pavodle svaječasnych apisańniaŭ, tur byŭ prosta vializnym źvieram, bo až 1.80 m. vysokim. Pobač z hetym byli adnak tury i susiom małyja. Skura jaho była pakryta hustoju, doŭhaju, naježanaju poŭściu, koleru ciomna-buraha, a to i susiom čornaha. Praz ceły chrybiot tolki ciahnuŭsia vuzki pruh śviatlejšaj poŭści; taksama śviatlejšymi byli jahonyja chrapy, šniuk.

Mechanika budovy cieła tura prypaminała takuju-ž mechaniku ŭ alenia ci łasia i heta śviedčyć ab sposabie jahonaha žyćcia: pry samazdabyvańni kormu i samazabiaśpiečańni prad napadam. — Prostalinijnaja z-profilu (z-boku) hałava tura była ŭvaružana silnymi, daŭhimi, spačatku ŭ baki, a paśla napierad i ŭvierch zahnutymi rahami.

*Bos brachyceros* (europeus) rožniŭsia ad tura pieradusim raźmierami i formami svajho cieła: jon byŭ značna mienšy, a linija jahonaj hałavy nia była roŭnaj, jak heta my bačyli ŭ tura, ale vychilenaj napierad u vierchniaj čaści łobu i vyhłyblenaj u formie miski — u dolnaj čaści, pamiž vačej.

Ad *tura* pachodzić kali nia ŭsia skacina, jak ćvierdziać niekatoryja vučonyja, dyk prynamsia skacina ściapnaja (ukrainskaja, madziarskaj italjanskaja), nižynnaja (halandzkaja,

usch.-pruskaja, chałmahorskaja), pinzgauskaja, šyrokałobaja (frontosus, npr. siemenskaja, bernska-hanackaja i inš.).

Ad *bos brachyceros* pachodzić karotkarohaja skacina ŭschodniaj Eŭropy, miž inš. i karotkarohaja skacina na Biełarusi.

Skacina *łabataja*, biazrohaja asobnaha typu nie pradstaŭlaje i ŭtryvaliłasia, pieradusim u Anhlii, dziakujučy štučnym zachadam (padboru) čałavieka—hadaŭca.

Što da prodkaŭ *harbutaj* skaciny ŭ paŭdzionnaj Azii, h. zv. *zebu*, dyk navuka ab hetym jašče apošniaha słova nie skazała.

Ab sučasnaści i značeńni svojskaj skaciny dla čałavieka varta zaznačyć hetulki, što čałaviek-ziemlarob, asabliva-ž — ziemlarob drobny biez jaje siańnia badaj nia moh-by isnavać. Pry miejscy adnak budzie zaznačyć, što karova ŭ biełaruskich drobnych ziemlarobskich haspadarkach całkom nia vykarystana: aprača małaka, miasa, skury i hnoju, skacina (karova) ŭ drobnych haspadarkach Zach. Eŭropy ŭžyvajecca i jak uprežnaja siła ci to da pieravozu ŭsiakich haspadarskich hruzoŭ ci da vykonyvańnia pracy pry abrablańni samoj ziamli — pry arańni, baranavańni i h. d. Amal što praviłam pry hetym tam jość, što haspadarki nižej 5 ha kania nikoli nia majuć. — Na Biełarusi-ž usiudy trymajuć kania i im skarmlivajuć usiu haspadarku.

Maładoje biełaruskaje ziemlarobskaje pakaleńnie musiła-b ab hetym dobra pieradumać. **Ad Klimovič.**
**inž.-ahranom.**

# Da nas pišuć.

## ЦЯЖКА ІДЗЕ КУЛЬТУРНАЯ ПРАЦА НА ВЁСЦЫ.

**в. Вялікія Грынкі,** Ваўкавыскага пав. Жыцьцё нашае моладзі праходзіць вельмі сумна. Ня гледзячы на тое, што ў вёсцы існуе гурток Т ва Беларускай Школы, культурна-асьветная праца разьвіваецца вельмі слаба. Прычынаю гэтаму ёсьць малая колькасьць сяброў. Замест таго, каб гарнуцца да гуртка, шмат сяброў выступіла з яго. На Вялікдзень гурток мае ўсё-ж-такі намер паставіць спэктакль, але ці ўдасца зрэалізаваць гэтую думку пры выжэйпаданых варунках, сказаць трудна. Пажадана было-б, каб моладзь наша прыхілілася да гэтага намеру і дапамагла ў яго працы.

**Тутэйшы.**

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

14-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сёлета 25-га сакавіка прыпадаюць 14-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. З гэтае прычыны Беларускі Нацыянальны Камітэт, як найвышэйшая беларуская народная інстытуцыя, выдаў адумысловую адозву да Беларускага Народу, заклікаючы належна ўшанаваць угодкі гэтага Вялікага Дня ў беларускім жыцьці. Кожны Беларус, успамінаючы Акт з 25-га сакавіка 1918 году, павінен добра прызадумацца над лёсам свайго народу і пакрапіцца надзеяй, што праўда заўсёды перамагае.

У Вільні, дзеля ўшанаваньня 14-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, у Беларускім Нацыянальным Камітэце (Людвісарская 1—19) 25-га сакавіка с. г. а гадз. 12-ай удзень адбылося ўрачыстае публічнае паседжаньне.

Статуту Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня" і ў Міністэрстве адмовіліся зацьвердзіць. Начальнік безпячэнства Віленскага ваяводзтва пісьмом з дня 23.II. 1932 г. № V. 1433-30 паведаміў закладчыкаў Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня", што Міністэрства Унутраных Спраў пакінула „bez uwzględnienia" адкліканьне закладчыкаў Т-ва „Будучыня" проціў пастановы Віленскага Ваяводы, які арганізаваць гэта Т-ва ў свой час забараніў. Як Ваявода, так і Міністэрства не падаюць прычын, дзеля якіх адмовіліся зацьвердзіць Статут Т-ва „Будучыня", бо пастанова гэта падлягае зусім свабоднай ацэне ўлады і не вымагае „uzasadnienia".

Так канчаецца спроба арганізацыі культурна-асьветнага і выхаваўчага Т-ва Беларускай Моладзі „Будучыня" і так выглядае ў практыцы магчымасьць культурна-асьветнага разьвіцьця Беларусоў у Польшчы.

Беларуская каталіцкая моладзь на рэколекцыях. 14, 15 і 16 сакавіка с. г. у касьцеле сьв. Мікалая адбыліся вялікодныя рэколекцыі для беларусаў-каталікоў, якімі кіраваў Магістар новіцыяту айцоў Марыянаў у Друі а. Я. Гэрмановіч. На рэколекцыі гэтыя найбольш учашчала беларуская каталіцкая вучнёўская моладзь.

З выдавецкае нівы. Апошнім часам вышлі з друку брашуры: інж. Ад. Клімовіча п. н. „І культура і палітыка" — выд. „Бел. Крыніцы". Цана брашуркі 15 гр., „Jak wučyć nas wieryć i žyć św":iataja Chrystowaja paŭsiudnaja Carkwa" — а. Б. Пачопкі, выд. аўтара. Цана 10 гр. а таксама і кніжка п. н. „Puty kachańnia" — Ул. Казлоўшчыка выд. Ул. Знамяроўскага. Цана 1 зл. Усе гэтыя кніжкі можна выпісаць з Кнігарні „Пагоня" Вільня, Завальная вул, 6—10.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# Usiačyna.

Žaleznaja ruda na Biełarusi. Niadaŭna ŭ Radavaj Biełarusi znajšli vialikija pakłady žaleznaje rudy.

Goethe'aŭskaje śviata. U Niamieččynie, a tak-ža i ŭ inšych kulturnych krajoch, 22 sakavika siol. hodu adbyvalisia ŭračystyja śviatkavańni ŭ česć vialikaha niamieckaha paeta, myśliciela, filozafa i ministra J. V. Goethe. Siołęta 22.III. mjnuła sto hadoŭ ad dnia śmierci jahonaj.

Rakieta dla razhaniańnia chmaraŭ. U Leninhradzie ŭ daśledčym instytucie vydumali rakietu dla razhaniańnia hradawych chmaraŭ.

Benzyna z dreva. U daśledčaj laboratoryi pry dziaržaŭnaj akademii techničnych navuk u Štokholmie vučonyja znajšli sposab dabyvańnia benzyny i alivy z dreva.

Kino ŭ SSRR. Pavodle statystyki ŭ SSRR jość 28.000 kinematohrafaŭ (pieravažna zvukavyja), z hetaj ličby 16.000 kinematohrafaŭ pieranosnych, viaskovych U 1931 h. saviety vypradukavali 250 filmaŭ, z jakich 110 navučnyja.

# Наша пошта.

А. Званок. Ваш верш цяпер ужо не на часе, адкладаем яго да наступнай зімы.

Міхась Явар. За прысланыя вершы дзякуем, зьмесьцім іх у наступных нумарох. Просім пісаць часьцей.

І—т П—н. Вершы слабыя, пішэце лепш прозай, карэспандэнцыю надрукуем.

А. Жук. За прысланыя матэр'ялы дзякуем, як бачыце, часткова ўжо друкуем. Раней прысланы верш „Паўказка" слабавата апрацаваны: слабая форма, рытміка кульгае, шмат ёсьць палянізмаў і гістарычныя недакладнасьці; думка вельмі добрая і варта было-б яе пераапрацаваўшы, пішучы прозай, падаць да друку. Просім не забываць, можа напішаце штось з жыцьця моладзі ў Вашай старонцы.

А. Асот. У прысланых вершах добрая думка, але слабая тэхніка вершаваньня. У Вас лепш выходзіць проза. Беларускай бібліятэкі ў Вільні, якая-б магла пазычаць кніжкі праз пошту на вёску, няма. Зборніку сабраных Вамі ў Сьвянцяншчыне беларускіх народных песьняў рэд. „Шляху Моладзі" выдаць ня можа, добра было-б аднак, каб Вы іх нам прыслалі, то мы магчыма дзе-небудзь іх выкарысталі-б. „Шл. М." высылаем і просім пісаць часьцей.

С. Гаротнаму. За верш і карэспандэнцыю шчыра дзякуем, як бачыце, чакткова ўжо карыстаем. Просьбу спаўняем.

А. Шлык. За прысланае дзякуем. Апісаньне жыцьця моладзі зьмесьцім у наступным нумары „Шл. М." Карэспандэнцыю: „Каго слухай, а свой розум май" передалі ў рэд. „Бел. Крыніцы", бо туды яна лепш падходзіць.

Кастусь Г—віч. Вершы слабыя, пішэце лепш прозай штось з жыцьця вашае моладзі.

Я. Вількоўскаму; зьмяніць ужо ня можам, бо раней прысланае ўжо набрана; а другі раз набіраць, гэта для нас вялікая страта.

St. T—ču. Vaš vierš słaby i da druku nie padchodzić, pišecie lepš prozaj.

J. Jarmałkoviču. Za pryslanaje dziakujem, prośbu spaŭniajem

Я. Невуку ў Францыі. За добрыя пажаданьні і за прысланы рукапіс шчыра дзякуем і просім не забываць.

Бел. Загр. Архіў у Празе (Чэхаславацыя), „Шлях Моладзі" высылаем.

Беларускаму Саюзу ў Амэрыцы: Просьбу спаўняем.